Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №3(87), сакавік, 2017г.

# «ДОСЫЦЬ УГІНАЦЬ НАРОД!» — У ВІЦЕБСКЕ ПРАЙШЛА АКЦЫЯ ПРАТЭСТА

**Лютаўская рэвалюцыя ў Віцебску: больш за дзьве тысячы пратэстоўцаў прайшлі па вуліцам гораду.**

Дзень 26 лютага 2017 году віцебчукі запомняць надоўга. Абурэньне дэкрэтам №3 вывела на акцыю пратэсту вялікую колькасьць грамадзянаў. Такіх праяваў пратэставых настрояў у месьцічаў не было, бадай, з часоў перабудовы.

Народ пачаў зьбірацца на плошчы Перамогі а дванаццатай. Праз паўгадзіны колькасьць незадаволеных «дармаедзкім» дэкрэтам дасягнула дзьвюх тысяч. Такога ў Віцебску яшчэ не было. Вельмі паказальны той факт, што на процілеглым баку плошчы, дзе народ сьвяткаваў Масьленіцу, колькасьць удзельнікаў была на парадак меншая.

Ніякіх мэгафонаў не было, але гэта не перашкодзіла выказацца кожнаму, хто меў ахвоту.




Адна з выступоўцаў прыгадала 41-ы артыкул Канстытуцыі, які гарантуе грамадзянам права на працу, як самы прыстойны спосаб самасьцьвярджэньня чалавека. А роля дзяржавы пры гэтым мусіць палягаць у стварэньні умоваў для поўнай занятасьці насельніцтва.

– Ці выконваецца гэта? – запытала жанчына.

– Не! – гучна выгукнуў натоўп.

– Такім чынам Канстытуцыя ператвараецца ў пустую паперу – і гэта зрабіла сёньняшняя ўлада.

– Яны жыруюць, ім добра, а нас яны лічаць за быдла!

– Дармаеды – яны, а ня тыя людзі, якія едуць у іншыя краіны, а сюды вязуць заробленае.

– Галоўны дармаед у Сочы, – дадаў сярэдняга веку мужчына, што выклікала гучны рогат натоўпу.

– Малайчына, – падтрымаў рэпліку нехта, хто сам не асьмельваўся выказацца гэтак рашуча.

– Нашы грошы праядае!

– Улада паводле Канстытуцыі належыць народу, таму чыноўнік любога рангу мусіць чуць голас народу, а ня тое, што "я пабудаваў", «я даў», «я-я-я-я»...

– Палохацца ўжо няма чаго і губляць ужо няма чаго! – прамовіла жанчына, гонячы ад сябе і другіх патаемны, неўсьвядомлены страх беларускай душы.

– Мы – талерантны, працавіты народ, і ня трэба з нас рабіць вашывых блох.

Прага пераменаў, бадай, – найгалоўнейшае з тых пратэставых лёзунгаў, што гучалі. А такіх лёзунгаў было ня мала: «Баста!», «Нет декрету номер три! Лукашенко, уходи!», «Падатак ня плацім!», «Лукашэнка, сыходзь!».

Пасьля таго, як большасьць з тых, у каго так набалела, што не маглі маўчаць, выказаліся, у паветры павісла паўза. Таму заклік дайсьці да плошчы Свабоды прыйшоўся дарэчы.

Людзі пад бел-чырвона-белым сьцягам згуртавана і зь вялікім імпэтам рушылі калёнай па вуліцы Леніна. Кіроўцы легкавікоў і аўтобусаў віталі дэманстрантаў гучнымі сыгналамі кляксонаў.

Пратэстоўцы прамінулі плошчу Свабоды і дайшлі ажно да плошчы Леніна. Тут, на прыступках Віцебскай абласной філярмоніі, адбыўся другі мітынг пад тымі самымі лёзунгамі, што раней гучалі на плошчы Перамогі.

С. Горкі, vitebskspring.org

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ-2017 -- «НЕ АЭС!»

**Традыцыйная акцыя «Чарнобыльскі шлях», якую дэмакратычныя сілы праводзяць 26 красавіка, у 2017 годзе пройдзе пад лозунгамі неадкладнага спынення будаўніцтва Астравецкай АЭС.**

«Дамовіліся, што асноўны акцэнт падчас акцыі будзе рабіцца на патрабаваннях неадкладнага спынення будаўніцтва АЭС. Усе аргументы адносна асаблівасцяў рэактара, якасці пляцоўкі таксама важныя, але другарадныя. Асноўны кансалідуючы пасыл — спыненне будаўніцтва», — адзначыў старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч**.

Фармат і маршрут акцыі будзе вызначаны на пасяджэнні аргкамітэта. «Прагучалі розныя меркаванні. У выніку вырашылі пачакаць да 17 сакавіка, калі можна будзе ацаніць пратэставы патэнцыял акцый супраць дэкрэта № 3 аб «дармаедах», правядзенне якіх намечана на 17 лютага і 15 сакавіка. З улікам таго, як пройдуць гэтыя акцыі, будзе прымацца канчатковае рашэнне і аб фармаце правядзення «Чарнобыльскага шляху», — сказаў Аляксей Янукевіч.

Акрамя таго, 15 або 22 красавіка плануецца правядзенне канферэнцыі, прысвечанай тэме будаўніцтва АЭС, у тым ліку і з удзелам міжнародных экспертаў.

У склад аргкамітэта «Чарнобыльскага шляху», акрамя Партыі БНФ, таксама ўваходзяць Беларуская партыя «Зялёныя», рух «За Свабоду», Аб'яднаная грамадзянская партыя, аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», кампанія «Еўрапейская Беларусь» і асобныя прадстаўнікі грамадскасці.

Паводле газэты "**Наша ніва**", nn.by

Магістрат

**Заснавальнік:**
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн:**
Сяржук Серабро
**Вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскі Цэнтр грамадзкіх ініцыятываў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў:
**8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.**




**Віцебская абласная арганізацыя Партыі БНФ: вул.Церашковай, д.11, п.№.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
E-mail: kas_vit@tut.by

**WWW.NARODNY.ORG**

**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

# СТВОРАНАЯ РАДА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ ВІЦЕБШЧЫНЫ

**Прадстаўнікі пяці партыяў і арганізацый Віцебшчыны, а таксама неабыякавыя грамадзяне увайшлі ў Раду дэмакратычных арганізацый і неабыякавых грамадзян.**

«Прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый Віцебшчыны аб'ядноўваюць свае намаганні дзеля каардынацыі дзеянняў па пераадоленню сістэмнага крызісу, які развіваецца на Беларусі апошнія гады праз сумесныя дзеянні актывістаў арганізацый, неабыякавых грамадзян», — сказана ў заяве аб стварэнні Рады.

Дакумент падпісалі каардынатар Руху «За Свабоду» у Віцебскай вобласці **Леанід Гаравы**, каардынатар арґкамітэту БХД па Віцебскай вобласці **Таццяна Севярынец**, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ **Кастусь Смолікаў**, старшыня арґкаму па стварэнню прафсаюзу прадпрымальнікаў «Разам» **Ірына Яскевіч**, прадстаўнік партыі «Справядлівы свет» **Вадзім Кузьмін**, неабыякавыя грамадзяне **Леанід Аляхновіч** і **Мікола Качурэц**.

Па словах аўтараў заявы, «падставай для стварэння каардынацыйнай Рады стаў рост пратэстных настрояў у грамадстве ў сувязі з неканстытуцыйным Дэкрэтам № 3, несправядлівымі дзеяннямі па змяненню пенсійнай сістэмы, аддаленасцю ад народа ўлады праз адсутнасць у краіне свабодных, тайных і адкрытых выбараў і рэальнага мясцовага самакіравання, росту беспрацоўя і падзення жыццёвага ўзроўню».

«Паглыбленне крызісу ў эканоміцы, уладных структураў, якія не абіраліся на дэмакратычных выбарах, ставіць пад пагрозу суверэнітэт і незалежнасць Беларусі», — упэўненыя сябры Рады.

Каардынацыйная Рада падзяе абурэнне жыхароў рэгіёну, якія 26 лютага выказалі пратэст «супраць антынароднай палітыкі шматтысячным маршам у цэнтры Віцебску, а таксама ўхваліла мірныя пратэсты ў іншых гарадах Беларусі» і прапанавала ўладам распачаць агульнанацыянальны дыялог.

Першая акцыя, адказнасць за якую возьме Рада, будзе «Марш недармаедаў». Акцыя пройдзе ў Віцебску 15 сакавіка, распавёў сайту Рух.by Леанід Гаравы. «Мы пройдзем ад плошчы Перамогі да аблвыканкама, дзе перададзім заяву памочніку Лукашэнкі пра адмену Дэкрэта № 3», — адзначыў Гаравы.

Па ягоных словах, каардынатарам гэтай акцыі будзе Яскевіч.

Прадстаўнікі Рады заклікалі годна адзначыць Дзень незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 Сакавіка пад лозунгамі «За суверэнную і незалежную Беларусь!», «За адмену Дэкрэта № 3», «За спыненне зменаў пенсійнай сістэмы да паляпшэння эканамічнага становішча», «Уся ўлада народу на свабодных, тайных і адкрытых выбарах».

Каардынацыйная Рада прапанавала неабыякавым грамадзянам Віцебшчыны ствараць Камітэты ўзаемадапамогі «дзеля узаемападтрымкі ва ўмовах сістэмнага крызісу, выпрацоўкі прапаноў для рашэння існуючых праблемаў і каардынацыі дзейнасці дзеля лепшай Віцебшчыны, лепшай Беларусі, годнага жыцця кожнага чалавека».

Камітэты ўзаемадамогі будуць стварацца ў тым ліку і для дапамогі тым людзям, у якіх улады праз дзеянне Дэкрэта № 3 захочуць апісаць маёмасць.

Вольга Быкоўская

# У АРШАНСКІМ ОФІСЕ АДБЫЎСЯ ПЕРАТРУС

Увечары 6 сакавіка на Чырвонаармейскай, 13 сабраліся дэмакратычныя актывісты для абмеркаваньня бягучых пытаньняў. Абмяркоўвайся і **"Марш недармаедаў"**, заплянаваны ў Воршы на 12 сакавіка. Падчас абмеркаваньня ў дом зайшлі міліцыянты, якія папрасілі "пагутарыць з адказным за памяшканьне". Размаўляў зь міліцыянтамі сябра Сойму ПБНФ **Ігар Казьмярчак**. Праз некаторы час да дома пад'ехалі прадстаўнікі Сьледчага камітэту з пастановай аб правядзеньніператрусу.

Пастанову праператрус падпісаў пракурор раёну **Ігар Белавусаў**. Падчасператрусу прысутных папрасілі пакінуць памяшканьне, але пры гэтым доўгі час не адпускалі дадому. У выніку ніякіх фальшывак знойдзена не было. Але ўся кампутарная і капіявальная тэхніка была канфіскаваная для правядзеньня экспэртызы. Забралі і фарбу для друкаркі.

За два дні да гэтага Ігара Казмерчака затрымалі на мяжы, і правялі асабісты дагляд, прычым тады мытнікі вусна патлумачылі, што "перашук - не іх ініцыятыва".

Акцыя пратэсту супраць дэкрэту №3 пра дармаедзтва заплянавана ў Воршы на 12 сакавіка.

Цяперашніператрус - першы за апошнія 7 гадоў. Прычым тады ціск адбыўся ў выглядзеператрусу на прыватнай кватэры ў Ігара Казьмерчака. Тады быў "адпраўлены на экспэртызу" асабісты кампутар Ігара.

orsha.eu

# У ХАЙСАХ БУДЗЕ МЭМАРЫЯЛ У ПАМЯЦЬ РЭПРЭСАВАНЫХ

**У 2017 годзе спаўняецца 80 гадоў гэтак званаму «Вялікаму тэрору», які наўпрост зьвязаны з асобай Сталіна. Сталін даўно сканаў, але памяць ахвяраў сталінізму па-ранейшаму не ўшаноўваецца. Віцебская грамадзянская ініцыятыва «Хайсы» шукае ў ваколіцах гораду месцы пахаваньняў рэпрэсаваных і вяртае грамадзтву забытыя сьведчаньні нашай трагічнай гісторыі. Наш карэспандэнт пагутарыў з кіраўніком ініцыятывы «Хайсы» Янам Дзяржаўцавым.**

***- Паважаны спадар Ян, 5 сакавіка 1953 году сканаў Сталін, але сталінізм, нібыта выкрыты і асуджаны неўзабаве пасьля ягонай сьмерці, пасьпяхова дажыў да нашых дзён. Сёньня і ў Расеі, і ў Беларусі адбываецца пэўная рэанімацыя значнасьці асобы Сталіна,узмацняецца настальгія па тых часох. Што тычыцца Вас, скажыце, якія падзеі тае эпохі Вы найперш зьвязваеце з гэтым гістарычным пэрсанажам?***

Сталін – крымінальны пэрсанаж. Імя гэтага «ўсесаюзнага пахана» зьвязанае найперш з масавым тэрорам супраць сотняў народаў. Савецкая разнавіднасьць таталітарызму – сталінізм гвалтам загнаў гэтыя народы ў найжахлівейшую ў гісторыі чалавецтва імпэрыю – СССР. Я лічу Сталіна самым вялікім злачынцам у сьвеце, які разам са сваім сябрам Гітлерам распачаў Другую сусьветную вайну ў 1939 годзе.

Нацызм і сталінізм – гэта два бакі аднаго мэдаля. Паставіўшы ідэалягічныя каштоўнасьці вышэй за каштоўнасьці агульначалавечыя, гэтыя два рэжымы разбурылі падмурак, на якім грунтуецца само жыцьцё. Наступствы вы ведаеце: толькі паводле афіцыйна прызнаных расейскай Думай лічбаў Савецкі Саюз згубіў у вайне больш за 42 мільёны чалавек, хаця некаторыя дасьледчыкі даводзяць колькасьць ахвяраў да 60 мільёнаў.

Але сталінізм мае і іншы аспэкт – гэта рэпрэсіі супраць уласных грамадзянаў у мірны час. І гэта ня толькі наўпроставыя забойствы. Прыкладам, у выніку голаду 1932 году, справакаванага калектывізацыяй, загінула 7 мільёнаў сялян. Усяго ж ахвярамі сталінскага рэжыму сталі ад 15 да 25 мільёнаў. Трэба ўсьведамляць, што мільёны ахвяраў патрэбныя былі сталінскаму рэжыму дзеля стварэньня новага савецкага чалавека, які б поўнасьцю падпарадкоўваўся дзяржаве і ня меў аніякіх памкненьняў да свабоды.

***- Сёлета адзначаецца трагічная дата – 80-я гадавіна «Вялікага тэрору». Як вядома, ініцыятыва «Хайсы» мае намер зьвярнуцца да кіраўніцтва гораду з прапановай правесьці мерапрыемствы, прымеркаваныя да гэтай даты. Ці спадзеяцеся вы на паразуменьне з уладамі?***

Як мы бачым, цяпер улады адзначаюць у асноўным сьвяты бальшавіцкія. Хаця тое ж 9-е траўня для Сталіна і савецкага народу доўгі час было не сьвяточнай, а трагічнай датай, якая не адзначалася на дзяржаўным узроўні. Гэта былі сьлёзы.

Рэч у тым, што ў бальшавікоў за душой нічога няма, і калі ў іх адняць гэтую цацку – вайну, то яны голыя. Таму такая ненатуральная, балючая ўвага да перамогі ў вайне, якую яны сабе прысабечваюць, бо гэтая перамога надае ім хоць нейкую ўяўную значнасьць. Але ж сапраўднае стаўленьне савецкай улады да ахвяраў вайны дэманструе хаця б тое, што забітых падчас баёў найчасьцей не хавалі. Добра, калі трупы забітых папросту скідвалі ў варонку ад снараду ці бомбы. Таму столькі мільёнаў зьніклых бяз весткі.

Спадзяваньняў на тое, што сёньняшнія ўлады пачнуць ушаноўваць ахвяраў рэпрэсіяў, як і ахвяраў вайны, няма. Гэта можа адбыцца толькі пасьля таго,



як яны скажуць, што сталінізм – гэта злачынства супраць чалавецтва; што так, гэта наша гісторыя, але мы асуджаем такую сыстэму дзяржаўнага кіраваньня і не зьяўляемся яе спадкаемцамі. Гэта адбудзецца толькі пасьля таго, калі з вуліц нашых гарадоў зьнікнуць прозьвішчы і мянушкі бальшавіцкіх бандытаў: дзяржынскіх, кнорыных, куйбышавых, каліініных, мікаянаў, сьвярдловых, кіравых, а ім на зьмену прыйдуць тысячы беларускіх прозьвішчаў нашых знакамітых суайчыньнікаў.

***- Як у сёньняшніх няпростых умовах знайсьці паразуменьне ў грамадзтве паміж тымі, хто шануе ахвяраў тэрору, і тымі, хто гэтых ахвяраў не прызнае? Як данесьці праўду да насельніцтва краіны, як пераканаць грамадзтва ў тым, што без асуджэньня сталінізму ў краіны няма цывілізаванай будучыні?***

Нават у гэтых неспрыяльных умовах ініцыятыва «Хайсы» зьбіраецца даводзіць грамадзтву праўду пра ахвяраў сталінскага тэрору, забітых і пахаваных у наваколльях Віцебску ў невядомых магілах. Да 80-й гадавіны «Вялікага тэрору» мяркуем правесьці фотавыставу. Ідзе збор матэрыялу для кнігі і фільму, у якіх жывыя сьведкі тых падзеяў распавядуць пра месцы рэпрэсіяў і рэпрэсаваных. Аднак калі паразуменьня шукае толькі адзін бок, а другі ігнаруе яго захады, паразумецца цяжка.

Мы, безумоўна, будзем зьвяртацца і да кіраўніцтва гораду, і да Віцебскай тэлерадыёкампаніі. Але трэба разумець, што пакуль сталінізм не прызнаюць злачынствам супраць чалавецтва – ніякага паразуменьня ня будзе. І тым ня менш будзем пераконваць і грамадзкасьць, і ўладу ў тым, што ў Хайсах мусіць быць мэмарыял, бо гэта пакуль адзінае месца ля Віцебску, дзе праводзіліся афіцыйныя раскопкі, якія ўскосна пацьвердзілі, што там ляжаць ахвяры рэпрэсіяў.

https://vitebskspring.org

# МОЛАДЗЬ БНФ ПАЧАЛА ЗБОР ПОДПІСАЎ СУПРАЦЬ ВУЧЭННЯЎ "ЗАХАД-2017"

**Актывісты мінскай гарадской арганізацыі Моладзі БНФ распачалі збор подпісаў супраць вучэнняў "Захад-2017".**

Пяць актывістаў выйшлі на вуліцы і збіралі подпісы каля ст.м. Плошча Якуба Коласа і бліжэйшых гандлёвых пляцовак. За 2,5 гадзіны маладыя людзі сабралі каля 50 подпісаў.

"У асноўным людзі амаль нічога не ведаюць пра гэтыя вучэнні ці яны (вучэнні – рэд. МБНФ) не выклікаюць у іх занепакоенасць", – кажа актывіст арганізацыі **Ўладзімір Астроўскі**.

"Падчас збору подпісаў мне стала больш відавочна, як дзейнічае расейская прапаганда ў Беларусі. Людзі састарэлага ўзросту амаль не жадаюць цябе слухаць ці проста кажуць, што гэта не нясе небяспекі", – падсумоўвае студэнт, які вырашыў дапамагчы са зборам подпісаў.

У асноўным супраць вучэнняў падпісваліся маладыя людзі, студэнты. Яны рэагавалі на збор подпісаў пазітыўна, але таксама амаль нічога не ведалі пра гэтыя вучэнні.

Пасля збору подпісаў на вуліцы актывіст мінскай арганізацыі Моладзі БНФ Арцём Бабок пайшоў збіраць подпісы па хатах і за гадзіну сабраў 23 подпісы.

"Па хатах было збіраць лепш, чым на вуліцы. Людзі больш удзялялі табе часу, казалі пра свае думкі, абмяркоўвалі стан эканомікі, палітыкі ў краіне. Было цікава паразмаўляць з людзьмі і пачуць іх кропку гледжання на сітуацыю з вучэннямі Захад-2017", – кажа сябра Рады Моладзі БНФ **Арцём Бабок**.

На прыканцы збору подпісаў актывісты раздавалі газеты "Новы Час". Тут справа пайшла весялей і хутчэй. За хвілін 5-10 людзі разабралі ў нас каля 120 асобнікаў газеты і прасілі яшчэ. Плюс раздача газет стварыла дадатковую ўвагу на актывістаў і подпісы пачалі ставіць актыўней.

"Такім чынам, мы распачалі сваю кампанію і заклікаем усіх ахвотных далучыцца да агульнай справы. Хоць і не было ажыятажу пры зборы подпісаў, але вельмі важна пачынаць уздымаць гэту тэму і працаваць з самымі рознымі людзьмі", – кажа кіраўнік арганізацыі **Юрый Лукашэвіч**.

З сённяшняга дня і да канца сакавіка мы будзем збіраць подпісы на вуліцах горада Мінска. Таксама ўжо сёння распачаўся збор подпісаў і ў іншых гарадах Беларусі, такіх як Магілёў, Гомель, Брэст, Барысаў, Віцебск, Кобрын, Бабруйск, Ліда, Нарач, Рэчыца, Ворша, Салігорск, Маладзечна, Слуцк. У асноўным нашы актывісты будуць збіраць у вучэбных установах, але калі вы жадаеце паставіць свой подпіс ці далучыцца і дапамагчы, то звяжыцеся з намі і мы абавязкова прыйдзем да вас. Таксама ў хуткім часе мы запусцім электроную петыцыю, дзе можна будзе паставіць свой подпіс.

Паводле сайту Моладзі БНФ, http://moladz.info

# У ВІЦЕБСКУ ПАДАДЗЕНАЯ ЗАЯЎКА НА МАСАВАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА З НАГОДЫ ДНЯ ВОЛІ

**Кіраўнікі рэгіянальных суполак Руху «За Свабоду» і Партыі БНФ падалі ў Віцебску заяўку на шэсце і мітынг да Дня Волі са зборам на адной з цэнтральных плошчаў горада і шэсцем па цэнтральнай вуліцы абласнога цэнтра.**

Заяўнікамі выступілі кардынатар Руху «За Свабоду» па Віцебскай вобласці **Леанід Гаравы** і старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ **Кастусь Смолікаў**.

«Мы падалі заяўку на Дзень Волі шэсце і мітынг ў Віцебску. Збор плануецца пасля палудня на адной з цэнтральнай плошчаў горада, а потым рух па вуліцы да другой плошчы, дзе будзе мітынг», — сказаў сайту Рух.by Леанід Гаравы. Ён нагадаў, што па беларускім заканадаўстве нельга паведаміць дату, месца і час масавай акцыі, як і падрабязнасці маршруту да атрымання дазволу на акцыі.

Галоўным лозунгам акцыі, дадаў каардынатар Руху ў Віцебскай вобласці, будзе «За суверэнную і незалежную Беларусь!». І гэта магчыма, калі ў краіне будзе эфектыўная, канкурэнтаздольная эканоміка, будуць стораны ўмовы для годнага жыцця кожнага чалавека. Акрамя таго, удзельнікі мерапрыемства абмяркуюць сацыяльныя і палітычныя лозунгі: «За адмену Дэкрэта № 3», «За спыненне зменаў пенсійнай сістэмы да паляпшэння эканамічнага становішча», «Уся ўлада народу на свабодных, тайных і адкрытых выбарах».

Леанід Гаравы адзначыў, што ў цяперашні крызісны час пры масавым збядненні народа варта мірным шляхам выйсці на нацыянальны дыялог дзеля выпрацоўкі курсу да лепшай Беларусі праз правядзенне свабодных, тайных і адкрытых выбараў.

«Дзень Волі гэта тая знакавая падзея ў жыцці беларускага народу, калі патрыёты Беларусі абвясцілі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. БССР і Рэспубліка Беларусі спадкаемцы дзяржаўнасці БНР і ў святочны дзень варта абмеркаваць на масавым мерапрыемстве, як далей дзейнічаць, каб суверэнітэт і незалежнасць Беларусі ўмацоўваліся, а жыццё простых грамадзян было годным», — заключыў каардынатар Руху «За Свабоду» па Віцебскай вобласці.

**ЗАКЛІКАЕМ ПЕРАЛІЧВАЦЬ АХВЯРАВАННІ НА ДЗЕЙНАСЦЬ БНФ ПРАЗ НАСТУПНЫЯ РЭКВІЗІТЫ:**

**ГРАМАДЗКАЕ АБ'ЯДНАННЕ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ", разліковы рахунак 3015 1001 47004 у банку ААТ "Банк БелВЭБ" філіял Мінскае аддзяленне №2. код 226, УНП: 100052236**

У графе "прызначэнне плацяжу" просім пазначыць:

— для ахвяраванняў на статутную дзейнасць — "БЯЗВЫПЛАТНЫ ЎЗНОС";

— для ахвяраванняў на аплату сядзібы — "БЯЗВЫПЛАТНЫ ЎЗНОС НА АПЛАТУ АРЭНДЫ ПАМЯШКАННЯ".

Ахвяраванні можна ўносіць непасрэдна і ў офісах БНФ у Мінску і абласных цэнтрах.

Шчыры дзякуй за Вашыя ахвяраваньні! **Управа Партыі БНФ і ГА "БНФ "Адраджэньне""**